*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№22 (22)**
25 кастрычніка 1995 г.
Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Кошт у розніцу — 700 руб.

# Народная Воля




Газета сверстана на компьютерах "ЛИНТЕК"

## Папуасы Новой Гвинеи подсказывают президенту Беларуси, что, когда государственные радио и телевидение извращают факты, – это нехорошо

Далеко от нас Папуа Новая Гвинея. Она, можно сказать, на самом конце света. Но и там узнали о минской забастовке. И это удивительно: оказывается, папуасы лучше информированы о том событии, чем многие белорусы, особенно те, кто читает государственные газеты. К такому выводу приходишь после знакомства с телеграммой, направленной в те дни ассоциацией общественных предпринимателей этой страны президенту Беларуси и нашему Свободному профсоюзу.

Названная ассоциация далекой страны выражает нашему президенту свою озабоченность по поводу задержания работников метро и руководителей профсоюза, сообщает, что она поддерживает требования минских рабочих и далее подчеркивает: "Хотели бы отметить тот факт, что рабочие не требуют повышения зарплаты для себя, а они требуют, чтобы белорусские власти соблюдали закон и коллективный договор".

Их ассоциация настойчиво просила президента освободить задержанных руководителей забастовки Канаха и Макарчука, депутата Верховного Совета Сергея Антончика, она также хотела знать о судьбе председателя Свободного профсоюза Геннадия Быкова. Ассоциация предпринимателей выражала свою озабоченность тем, что информация о требованиях рабочих извращается государственным радио и телевидением, это неприемлемо.

Читаешь и думаешь: когда же население Беларуси будет информировано о событиях в своей стране хотя бы на таком уровне, как предприниматели-папуасы?

## Радыяцыйна-экалагічная абстаноўка стабілізуецца

Міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іван Кенік, які вярнуўся з паездкі па Гомельскай вобласці, правёў кароткую сустрэчу з журналістамі.

Міністр паведаміў, што радыяцыйна-экалагічная абстаноўка ў раёнах, якія пацярпелі, стабілізавалася. У асобных месцах узровень радыеактыўнага забруджання зменшыўся на 15—20 працэнтаў. Цяпер міністэрства разглядае сітуацыю асобна ў кожным з больш чым 170 населеных пунктаў, узровень забруджання ў якіх складае 15—20 кюры на квадратны кіламетр. Там пражываюць каля 40 тысяч чалавек, і, паводле слоў міністра, дзве трэці з іх катэгарычна адмаўляюцца перасяляцца. Такія даныя былі атрыманы пасля апытання насельніцтва, праведзенага некалькі месяцаў таму міністэрствам. Прычым колькасць тых, хто пажадаў застацца на ранейшым месцы жыхарства, пастаянна павялічваецца. Вось чаму прынята рашэнне ў тых населеных пунктах, дзе развіта сацыяльная інфраструктура і няма вялікай рызыкі для здароўя людзей, даць ім права самім вызначаць свой лёс. Так ужо адбылося з вёскай Свяцілавічы Веткаўскага раёна, дзе жыхары вырашылі застацца.

**Эдуард ПІВАВАР.**

## БНФ ідзе на выбары з выразнай антыпрэзідэнцкай платформай

Народны фронт, як і іншыя палітычныя сілы краіны, актыўна вядзе падрыхтоўку да паўторных выбараў. Паводле апошніх звестак, БНФ вылучае на парламенцкія выбары 65 кандыдатаў. Прычым 7—8 кандыдатур "могуць быць прадметам перамоў і ўступак" на перамовах, якія БНФ вядзе з іншымі партыямі. Лепш за ўсё паразумеўся падчас узгаднення кандыдатур Народны фронт з Аб'яднанай грамадзянскай партыяй: са 141 акругі толькі на трох кандыдатурах яшчэ вядуцца перамовы.

БНФ робіць усё, каб у новы Вярхоўны Савет прайшло як мага больш дэмакратаў, робячы дзеля гэтага "пэўныя тактычныя напраўкі" і ўступкі. "Калі мы прайграем выбары, то ніхто не зможа абвінаваціць нас, што мы не змагаліся", — сказаў Л.Баршчэўскі. Прэс-сакратар Народнага фронту Сяргей Навумчык лічыць, што БНФ — "адзіная палітычная партыя, якая ідзе на выбары з выразнай антыпрэзідэнцкай платформай". Пры гэтым ён не выключае магчымасці супрацоўніцтва з прэзідэнтам, "калі яго палітыка будзе накіравана на падтрымку незалежнасці і суверэнітэту Беларусі".

**Юрась ДУБІНА,**
**БелаПАН.**

## Зарэгістраваны новы прафсаюз

**Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе Свабоднага прафсаюза Беларусі, Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваны Свабодны прафсаюз металістаў (СПМ), які мае статус рэспубліканскага.**

Яго старшынёй выбраны Павел Майсіевіч, які да гэтага часу ўзначальваў Свабодны прафсаюз работнікаў Мінскага завода аўтаматычных ліній.

Кіруючым органам новага прафсаюза з'яўляецца савет. Асноўныя мэты дзейнасці створанай арганізацыі — аб'яднанне намаганняў работнікаў для сумеснай абароны іх правоў і законных інтарэсаў, забеспячэнне справядлівай аплаты і аховы працы, здароўя і іншых сацыяльных гарантый.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**
**БелТА.**

## "Купіце рукапісную газету..."

Чым больш накат робіць рэпрэсіўная машына на незалежныя газеты, тым лепш яны прыстасоўваюцца да выжывання ў самых складаных умовах. Так, віцебскую апазіцыйную газету "Выбар" мясцовыя ўлады, здавалася, забаранілі. Але яна выходзіць — разавым тыражом 499 экземпляраў. Кажуць, што хутка на Віцебшчыне будуць распаўсюджвацца рукапісныя выданні, але свабоднае слова будзе жыць.

**Вольга ЗДАНОВІЧ.**

## Беларускае пасольства адсвяткуе ў Лондане сваё наваселле 7 лістапада

**7 лістапада ў Лондане адбудзецца афіцыйная цырымонія адкрыцця новага будынка беларускага пасольства ў Вялікабрытаніі. Аб гэтым на брыфінгу ў МЗС Беларусі паведаміў журналістам кіраўнік знешнепалітычнага ведамства рэспублікі Уладзімір Сянько.**

Адказваючы на пытанне аб тым, як ідуць справы з назначэннем беларускіх паслоў у Германіі і Польшчы, Уладзімір Сянько адказаў, што падпісаны ўказ прэзідэнта А.Лукашэнкі аб назначэнні пасла Беларусі ў ФРГ. Афіцыйна аб гэтым будзе аб'яўлена пасля атрымання з германскага боку агрэмана (паведамлення аб зацвярджэнні кандыдатуры пасла). Між іншым, у прэсе ўжо паведамлялася аб тым, што паслом Беларусі ў Германіі, магчыма, будзе назначаны намеснік міністра замежных спраў Пётр Бяляеў.

Адносна ж адсутнасці на працягу вось ужо чатырох месяцаў беларускага пасла ў Польшчы міністр выказаў надзею, што ў хуткім часе ён будзе назначаны. У.Сянько падкрэсліў, што прапаноўваў магчымыя кандыдатуры на гэтую пасаду.

**Андрэй СЕРАДА,**
**БелаПАН.**

## Учотная стаўка захавана

Як паведамілі карэспандэнту БелТА з прэс-цэнтра Нацыянальнага банка, на праведзеным 19 кастрычніка пасяджэнні яго праўлення было вырашана, улічваючы фактычны ўзровень інфляцыі ў рэспубліцы, захаваць стаўкі рэфінансавання камерцыйных банкаў з 21 кастрычніка на ўзроўні пяці з палавінай працэнтаў у месяц. Гэта велічыня ўчотнай стаўкі дзейнічае з 21 жніўня бягучага года.

**БелТА.**

**Мысли читателей**

## ...Это приближает нас к Северной Корее

Если слушать некоторых наших сегодняшних идеологов, то у нашего народа должно быть только одно мнение. Это приближает нас к Северной Корее, Узбекистану, Таджикистану. Даже в Китае и на Кубе уже разрешили людям мыслить, рассуждать, говорить так, как они хотят, а не как думают их кормчие и коммунистические режимы.

**А.НИЧИПОР,**
**полковник запаса.**
г.Слоним.

## У Беларуси есть шанс частично компенсировать затраты на ликвидацию последствий Чернобыля

**Во время рабочей поездки по Гомельской области премьер-министр республики Михаил Чигирь заявил журналистам, что Беларусь не будет инициировать в международных судебных инстанциях рассмотрение вопроса о компенсации затрат на ликвидацию последствий чернобыльской аварии.**

Он сказал, что, несмотря на истекающий десятилетний срок для предъявления претензий, нет абсолютно никакой уверенности, что республика сможет что-либо получить.

Сейчас правительством рассматривается другой вариант решения этого вопроса. Европейский Союз предложил Украине сумму в 500—600 миллионов долларов для закрытия Чернобыльской АЭС. По словам премьер-министра Беларуси, руководство Украины выдвинуло требование о выделении 4 миллиардов долларов. Тогда оно даст согласие на закрытие этого объекта. Предложение украинской стороны рассматривается в ЕС, и вполне возможно, оно будет принято, так как станция таит в себе опасность для всех государств Европы. В таком случае Беларусь поднимет вопрос о том, чтобы часть денег из этой суммы была отдана республике для частичной компенсации затрат, понесенных на ликвидацию последствий аварии, сообщил Михаил Чигирь.

**Эдуард ПИВОВАР,**
**БЕЛТА.**

Народная Воля 25 КАСТРЫЧНІКА 1995 г.

## У Беларусі сёння налічваецца 126 тысяч удзельнікаў ліквідацыі аварыі на ЧАЭС

**Пра гэта паведамілі прадстаўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС.**

На сёння для перарэгістрацыі ў розныя дзяржаўныя ўстановы звярнулася 50 працэнтаў "ліквідатараў", прайшлі яе толькі 10 працэнтаў тых, хто атрымаў адпаведныя пасведчанні раней, прызнаны беспадстаўна выдадзенымі 114 пасведчанняў. У зонах з дастаткова невысокім узроўнем радыяцыйнага выпраменьвання (15—20 кюры на квадратны кіламетр) пражываюць сёння 42 тысячы чалавек, і, як паказала сацыялагічнае апытанне, праведзенае ў 1993 годзе, 2/3 насельніцтва адмаўляецца ад перасялення.

У бліжэйшы час, як было заяўлена на прэс-канферэнцыі, на разгляд Кабінета Міністраў будзе прадстаўлены новы праект дзяржаўнай праграмы па пераадоленню наступстваў Чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі. Дакумент прадугледжвае, з улікам апошніх даследаванняў і змен у эканамічным і сацыяльным жыцці, комплекснае вырашэнне праблем зніжэння ўзроўню радыенуклідаў у сельгаспрадукцыі, абароны насельніцтва ад радыяцыі і інш.

Марат УРУБЛЕЎСКІ.

## Пры атрыманні хабару ў тры тысячы долараў ЗША затрыманы старшы следчы аддзела ўнутраных спраў Пінска

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН пракурор Пінска Аляксей Андрыевіч, у праваахоўныя органы паступіў сігнал пра тое, што следчы Р., які расследаваў крымінальную справу ў адносінах да групы небяспечных злачынцаў, патрабуе грашовага "ўзнагароджання".

У сувязі з гэтым былі праведзены пэўныя аператыўна-тэхнічныя дзеянні, у выніку якіх прадстаўнікі пракуратуры горада, супрацоўнікі Упраўлення ўнутраных спраў і МУС затрымалі вымагальніка з доказамі злачынства.

Валянціна КАЗЛОВІЧ.

## У Брэсце ўзрасла колькасць злачынстваў, здзейсненых у нецвярозым стане

Усялякае п'янства (ці ад цяжкага жыцця ці проста з выпадку) часта цягне за сабой другое зло — злачынства. За дзевяць месяцаў гэтага года колькасць злачынстваў, здзейсненых у Брэсцкай вобласці "пад хмяльком", вырасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 9 працэнтаў. Часта ахвярамі становяцца блізкія людзі. Так, у Брэсце пасля сумеснага распіцця спіртных напіткаў 34-гадовая жанчына ўдарам нажа ў сэрца забіла свайго мужа.

У Кобрыне ахвярай раз'юшанай жонкі стаў служачы адной з воінскіх часцей. З нажавымі раненнямі пацярпелы дастаўлены ў бальніцу. У Столінскім раёне ў двары свайго дома знойдзены труп пенсіянеркі. У забойстве падазраецца яе муж, які для вырашэння спрэчкі выбраў лапату.

Па ўсіх выпадках узбуджаны крымінальныя справы.

Валянціна КАЗЛОВІЧ,
БелаПАН.

## Японцы приходят к выводу, что белорусы умеют работать

Белорусские дипломаты пользуются шквальной популярностью у японских журналистов. Жители Токио берут автографы у белорусского временного поверенного Сергея Саенко прямо на улицах.

К нему весьма тепло относятся в чопорном японском МИДе. И причина этому не только могучая стать белорусского дипломата и его добрые глаза. Недавно японцы запустили в Беларуси завод по производству компрессоров и неожиданно для себя обнаружили, что предприятие стало давать высококлассную продукцию. Они сразу же предположили, пишет газета, что в Беларуси, отрезанной от моря и лишенной своего сырья, имеются важные достоинства: здесь умеют хорошо работать и выпускать не полуфабрикаты, а готовые изделия, да еще и высокого качества.

Беларусь уже поставляет в Японию жидкие кристаллы, без которых невозможно производить компьютерные дисплеи и вообще изделия электроники. И это не единственный товар, поступающий в Страну восходящего солнца. Есть и другие возможности. Так что если будет сформирован двусторонний комитет по экономическому сотрудничеству, то без работы он не останется.

Развитию экономических отношений между странами способствует и то, что между Беларусью и Японией нет политических проблем. В настоящее время готовится визит белорусского министра иностранных дел в Токио. Это будет первый визит на столь высоком уровне за трехлетнюю историю двусторонних отношений, который, выражают уверенность "Известия", откроет новые перспективы для их развития.

БелТА.

**Из первых уст**

*Станислав БОГДАНКЕВИЧ:*

## "Абсолютная власть одного человека или группы лиц приводит к разграблению народного достояния, к гибели государства..."

**Можно сказать, что до недавнего времени лишь применительно к одной личности в высшем звене власти употреблялось определение "профессионал". С именем Станислава Богданкевича связывались едва ли не последние надежды на подлинные рыночные преобразования в Беларуси. Вера сограждан в "облегчение" жизни укрепляется не столько с провозглашением тех или иных идей, сколько с конкретными личностями, коих в президентской команде... Осталось ли?**

**Являясь одним из лидеров Объединенной гражданской партии, Богданкевич сделал свое первое заявление, в котором призвал движения и партии к объединению. Своеобразное "послесловие" к данному заявлению мы и предлагаем вашему вниманию.**

**— Станислав Антонович, не казалось ли вам, когда решались на продолжение политической деятельности — уже в иной ипостаси, — что ваше намерение устраивает и те политические силы, к коим вы примкнули, и властей предержащих? Первым, как воздух, необходим авторитет отставного банкира, вторым — образ врага...**

— В первую очередь, политическая борьба, пропаганда своих идей — называйте это как хотите — нужна мне. И нет дела до "внешних сил". Хотя, да, многие предупреждали: потеряешь имя, авторитет. И что из этого? В могилу его с собой забирать? Я должен помочь в создании будущей демократической системы.

**— И это говорит тот, кто последние годы с былыми и нынешними правителями, по мнению кое-кого, разрушал отечественную экономику? Находятся ведь и такие оценки вашей деятельности...**

— Да, все это время Богданкевич стоял у руля банковской системы. И толкал этот корабль вперед. Четыре года воевал в парламенте: давайте создавать рыночную экономику! Пусть сограждане спросят себя: кто развалил Советский Союз? Что, Богданкевич? Кто разрушил старую систему хозяйствования, основанную на плане и административно-партийной ответственности чиновников? Это была малоэффективная, но стройная система, отработавшая не одно десятилетие и позволявшая хоть как-то жить. Кто был премьером, президентом, министром экономики, промышленности? Уничтожили административную ответственность — ладно. А материальную, финансовую — вплоть до банкротства — ответственность собственников друг перед другом не создали. 50 трлн. долгов по неплатежам! Сколько можно тянуть! Шока боятся... Проведена ли санация банкротств? Нет. А ведь решение этого вопроса было запланировано на ноябрь минувшего года. И на июньском совещании Совета безопасности он обсуждался.

Что касается методов управления... Это — в цехе позволительно орать на подчиненных, тем самым добиваясь каких-то результатов. А на уровне республики необходимо работать без пафоса, крика, рассчитанного на люмпенов.

**— Станислав Антонович, объединение двух партий — ОДП и ГП — в Объединенную гражданскую явилось слиянием "под Богданкевича" или же это был самостоятельный процесс, который мог обойтись и без вашего участия?**

— Разумеется, последнее. Ведь настолько назрело! Одинаковые подходы, цели... Не будет у партий победы на выборах, коль и дальше станут преобладать лишь личностные амбиции. Не надо выпячивать свое "Я". Разве это главное? Перед нами наиважнейшие проблемы рынка, демократии, соблюдения законности.

**— Почему, на ваш взгляд, процесс объединения партий начался только сейчас, а не, скажем, год назад?**

— Наконец-таки произошло осознание момента. Да и опыт какой-никакой сказывается.

**— До последнего времени президент демонстративно игнорировал существование партий, тем самым давая понять, что реальной политической силой они не обладают...**

— В России партия, набравшая 5 процентов голосов, имеет право формировать в Думе определенное количество мест. А у нас — либо все, либо ничего. Если бы президент понимал, как необходимо объединение всех политических сил, с ним труднее было бы бороться. А так — разрушает, разбрасывает камни. Это беда и президента, и народа, его избравшего.

**— Сможет ли новый состав парламента стать противовесом исполнительной власти?**

— Думаю, есть все шансы. Ведь опыт бесследно не проходит. Прежний состав Верховного Совета не смог себя защитить, вот и пожинает плоды... Это люди вчерашнего дня, других убеждений.

**— Знаю, многие, узнав о том, что вы стали лидером партии, решили про себя: Богданкевич таким образом стремится "отплатить звонкой монетой" тем, кто "ушел" его в отставку.**

— Да, что-то я не смог реализовать, но речь идет не о сведении счетов. Хотелось, чтобы рынок, реформы стали реальностью. Верил, наконец-таки появился шанс, когда разрабатывали программу неотложных мер, оговаривались конкретные сроки ее исполнения. А что получилось?..

**— Налицо политический кризис... Похоже, президент стремится в единственном лице представить все ветви власти. Вернее, их подобие. Станислав Антонович, каковы, на ваш взгляд, пути выхода из данной ситуации?**

— Избрание нового состава парламента. Хочется верить, что народ придет на выборы, поймет: абсолютная власть одного человека или группы лиц приводит к разграблению народного достояния, к гибели государства.

Леонид КАНФЕР.

## Юрыя Захаранку вылучылі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета ў Гомелі

**18 кастрычніка ў Гомелі на сходзе па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета апарат упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама, а таксама яго падраздзяленні (інфармацыйна-вылічальны цэнтр, крыміналістычная лабараторыя, міжраённая пашпартна-візавая служба, вузел аператыўнай сувязі, канвойны ўзвод) аднагалосна прагаласавалі за кандыдатуру былога міністра ўнутраных спраў генерала Юрыя Захаранкі.**

Усё адбылося, здаецца, зусім выпадкова. Сход пачаўся ў прызначаны час, яго ўдзельнікі распачалі абмеркаванне кандыдатуры намесніка начальніка следчага ўпраўлення абласнога УУС Леаніда Глухоўскага. Нечакана ў зале з'явіўся Юрый Захаранка, якога прысутныя сустрэлі літаральна шквалам апладысментаў, і калі з залы прагучала прапанова вылучыць кандыдатам менавіта яго, Леанід Глухоўскі зняў сваю кандыдатуру, і ўсе 257 удзельнікаў схода аддалі галасы за экс-міністра. Гэтак жа аднагалосна Юрыя Захаранку вылучыў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета і працоўны калектыў дзяржаўнага гандлёва-камерцыйнага прадпрыемства "Цэнтр", які ўжо аднойчы даручыў яму быць дэлегатам легендарнага XXVIII з'езда КПСС.

На прайшоўшай увечары гэтага ж дня прэс-канферэнцыі Юрый Захаранка адзначыў: "Я шчаслівы, што тут, у сябе на радзіме, у калектыве, дзе я прапрацаваў не адзін год, калегі ацанілі маю работу". Як лічыць генерал Захаранка, прычынай яго адстаўкі паслужыла выказаная ім нязгода з прэзідэнтам адносна метадаў пабудовы прававой дзяржавы. На думку былога міністра, сёння далёка не тая сітуацыя, каб папраўляць стан эканомікі за кошт і без таго абяздоленых людзей. Юрый Захаранка заўважыў, што цяперашні Вярхоўны Савет спрацаваў няўдала з-за таго, што не вызначыў прыярытэты, а таму новаму парламенту трэба заканадаўча забяспечыць тры найбольш важныя накірункі: уздым эканомікі, барацьбу з арганізаванай злачыннасцю і развіццё маладзёжнай палітыкі. Сваю ролю магчымага дэпутата Вярхоўнага Савета генерал Захаранка бачыць у першую чаргу ў прыцягненні дэпутатаў да разгляду некалькіх дзесяткаў заканадаўчых актаў, распрацаваных у МУС яшчэ падчас яго кіраўніцтва, і якім цяперашні парламент не надаў належнай увагі.

Ірына ШАНЦАВА,
БелаПАН.

## Дзе Лукашэнка ўзяў грошы сабе на прыз?

Больш за тыдзень таму ў Маскве скончыўся традыцыйны ўжо кінафестываль славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь". Наша прэса з пэўным гонарам паведаміла, што Беларусь была адзначана шэрагам узнагарод. Што асабліва варта ўвагі, прызы залатога і сярэбранага віцязя атрымалі адпаведна Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Замяталін, а статуэтку "воіна-пераможцы" атрымаў славуты ўжо Юрый Азаронак за сваю "Нянавісць". Ну, як кажуць, іх справы — гэта іх справы, ды і трэба паважаць іншыя погляды на свет. Так. Але яшчэ ёсць некаторыя падрабязнасці. Выступаючы па "Маладзёжнаму каналу" арганізатар названага фэсту Мікалай Бурляеў паведаміў, што грошай, так здарылася, на яго правядзенне не было, ставілася пытанне аб яго закрыцці, але дапамог, ну вядома, славуты барацьбіт за справу славян Аляксандр Лукашэнка. Суму ён не паведаміў, але ўдакладніў, што на яе ўтрымлівалі амаль тыдзень 200 гасцей, аплацілі арэнду зала і г.д., і ўсё гэта ў маскоўскіх цэнах.

Добрая справа — мецэнацтва і падтрымка культуры і варта ўсялякай пахвалы, але як грамадзяніна Беларусі і падаткаплацельшчыка мяне цікавіць: з чыёй кішэні? Ці дзяржаўная ўжо блытаецца з уласнай? Ці беларуская культура ўжо настолькі заможная, што ёй не патрэбна?

Стэфан ВОЛАХ,
г.Магілёў.

## Глуха грукаюць каштаны

На вуліцы імя Леніна ў Гродне ападаюць з дрэў каштаны. Адзін з прахожых падабраў некалькі ў кішэню. Я пацікавіўся: "Чаму?"

— Еду на заробкі ў Падмаскоўе: трэба сям'ю неяк карміць. А каштаны будуць напамінкам пра родныя мясціны.

Дарэчы, легіянер сам родам з Мастоўшчыны, дзе зараз налічваецца 550 беспрацоўных. І яшчэ, што яго чакае за мяжой: 50 долараў штрафу за трохдзённую тамтэйшую непрапіску. А заробкі, удвая меншыя, чым у мясцовых майстроў.

Але ён усё роўна туды едзе. Калі не паедзе, то тут, у Беларусі, яго сям'я прападзе з голаду.

Г.ЮРКАВЕЦ.

## Шанц болей прывідны, чым рэальны

Шанц стаць уладальнікамі асобных добраўпарадкаваных кватэр з усімі выгодамі атрымалі жыхары Гродна, якія стаяць у чарзе на атрыманне жылля. Праўда, шанц гэты болей прывідны, чым рэальны: за жыллё ў новым доме па вуліцы Рэпіна трэба заплаціць ад 150 да 185 долараў за квадратны метр. Першапачатковы ўзнос складзе 70 працэнтаў кошту кватэры. Так што жыць у новым доме будуць толькі тыя, у каго водзяцца грошы.

## У Мастах — без ілюзій

Бескватэрныя жыхары райцэнтра Масты не спадзяюцца ўжо на атрыманне бясплатнага жылля. У гарадской чарзе на атрыманне кватэр — каля 700 чалавек, але на наступны год у Мастах не плануецца будаўніцтва жылля за кошт сродкаў бюджэту.

## У оптыкаў чакаюцца перамены

Перамены чакаюць у бліжэйшы час вытворчае аб'яднанне "Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання". Яно ўвайшло ў склад адкрытага акцыянернага таварыства "Оптыка-электронныя прыборы і сістэмы", якое згуртавала былыя прадпрыемствы саюзнага абароннага комплексу. Мяркуецца, што гэта дасць смаргонскім станкабудаўнікам новыя інвестыцыі ў вытворчасць.

М.ВАСІЛЕВІЧ.

## Голад па інструкцыі

Галоўны санітарны ўрач г.Брэста закрыў сталовую для бяздомных і маламаёмных грамадзян, арганізаваную дабрачыннай арганізацыяй "Дом міласэрнасці" пры брэсцкім касцёле Узвіжання Святога Крыжа. Матывацыя — адсутнасць умоў для мыцця рук і посуду і непраходжанне абслугоўваючым персаналам медыцынскага агляду.

З 20 кастрычніка бясплатных абедаў пазбавіліся каля 230 чалавек.

З-за таго, што адны не выконваюць інструкцыю, а другія выконваюць яе бяздумна, будуць галадаць людзі.

Кастусь АНАНІЧ.

## Няма межаў вынаходніцтву

Мытнікамі на КПП "Брузгі" на мяжы з Польшчай было выяўлена, што жыхар Гродзенскай вобласці зрабіў перасоўнае сховішча: ва ўласным аўтамабілі "Масквіч", у газавым балоне, перавозіў 45 літраў спірту. Гэта унікальны спосаб транспарціроўкі кантрабанды. Мытнікі кажуць, што няма межаў вынаходніцтву абяздоленага чалавека. Той жа спірт чалавек вёз не ад добрага жыцця.

Г.ЮРКАВЕЦ.

**Как выжить? Учитель...**

# Звезда и смерть предприятия

**Статистика говорит, что около 90% различных неудач малых фирм в своей основе связаны с некомпетентностью руководителя в коммерции, финансах, поставках и учете. Непосредственными коммерческими причинами краха небольших фирм в 49% случаев являются незначительные объемы продаж; 23% — конкуренция; 16% — слишком большие расходы по содержанию фирмы.**

В жизни фирмы по аналогии с человеком можно выделить четко выраженные периоды.

Рождение организации связано с удовлетворением новых интересов покупателя, с занятием свободной рыночной ниши. Такие качества, как вера в успех, готовность рисковать, неистовая работоспособность при неадекватно низкой зарплате, небольшое количество соратников, характерны для этого периода.

Детство — возраст опасный. Это период несоразмерного роста организации. Из-за неопытности и некомпетентности управляющих в этот период терпят крах около 90% малых фирм.

У каждого дела есть свой, естественный темп роста. Если его не достичь, дело может свернуться. Но есть и другая опасность — предприятие начинает бешено преуспевать и ликовать по поводу высоких заработков и объемов продаж. У японских бухгалтеров есть поговорка: "Над — это начало под". Порожденные эйфорией роста, ошибки до поры до времени будут замаскированы преуспеванием.

Планируйте провал. Вы должны предвидеть провал, должны ожидать, что все пойдет наперекосяк. Если, занимаясь бизнесом, вы понимаете, что можете сделать двадцать серьезных ошибок, и придумываете способы защиты, значит, вы сумеете выжить.

Юность — период перехода от управления, осуществляемого небольшой командой единомышленников, к управлению с использованием простых форм планирования и финансирования. На смену интуитивному риску приходит расчет специалистов. В команде единомышленников начинаются трения в связи с появлением новых членов коллектива с узкоспециальными знаниями. В этот период желательно управление фирмой непосредственно ее основателем.

Юности предприятия свойственна эйфория, или, как писал В.И.Ленин, головокружение от успехов. В этот период не принимаются в расчет аксиомы бизнеса, в том числе одна из важнейших — мы платим, еще платим... и вновь платим постоянно и всегда. Расходы по содержанию предприятия имеют обыкновение стремительно расти. Директор юного предприятия, как правило, не в состоянии оценить размеры и необходимость этих расходов. Дела идут по нарастающей, думает он и берет на работу еще одну секретаршу, увеличивает площадь офиса, а в газету дает объявление о найме водителя с автомобилем. Фирма распухает от обилия нужных и не очень работников и одновременно делает незаметный шаг к финансовому краху.

Успех в бизнесе заключается не в производстве хорошего товара, не в больших оборотах, а в том, остается ли что-нибудь в конце года или нет.

Редко встречаются люди, у которых имеется достаточно храбрости, чтобы ясно судить о своих поступках. Обычно мы уделяем много внимания нашим успехам и смотрим на наши промахи, как на случайности. Эйфория у владельца предприятия нарушает планомерность и непрерывность его работы. Успешный бизнес не может быть спорадическим, от случая к случаю, когда захочется. Ведь платежи за аренду, проценты за кредит и жалованье работникам текут без перерыва. Долги каждого без остановки идут своей дорогой, и срок их уплаты постоянно приближается.

Юность предприятия заставляет забыть коммерсанта и о такой важной аксиоме бизнеса, как "время—деньги". Говорят, что в прошлом веке в некоторых провинциях Китая единицей времени считалось 15 минут и час был разделен на четыре части. Сейчас потеря каждых пяти минут при 8-часовом рабочем дне уменьшает вашу работу на 1%.

Многие предприятия погибли от того, что забыли жестокую непреложность течения процентов. Товары в магазине сейчас часто представляют собой взятый взаймы капитал (т.е. на реализацию). Себестоимость непроданных товаров растет с течением времени. Товары на складе держать невыгодно, так как надо платить за аренду помещения, за отопление, освещение, штрафные санкции и т.д. Если вы хотите обеспечить себя прибылью, то вы должны их продавать без замедления.

Магазины и универсамы, которые быстро рассчитываются с поставщиками, процветают (в качестве примера можно привести минские универсамы "Палессе", "Каприччио" и др.). Предприятия торговли, которые это не поняли, и из которых поставщики месяцами не могут выколотить свои деньги, выделяются пустыми полками, долгами, отсутствием покупателей и низкими зарплатами (АП "Невель", ТП "Кармен" и др.). Другими словами, нельзя заниматься никаким делом без того, чтобы не включить в расчет фактор времени. Замедление приходит само по себе, ускорения же нужно добиваться.

Зрелость организации тесно связана с ее проникновением в новые сферы деятельности. Именно в этот период активно нарождается бюрократия. К власти приходят опытные администраторы, талантливые специалисты заменяются послушными. Формируется самодовольное сознание того, что организация прочно стоит на ногах.

Есть такой биологический эксперимент.

Лягушку N1 помещают в сосуд с водой комнатной температуры. Лягушка плавает.

Лягушку N2 помещают в сосуд с очень горячей водой. Лягушка тут же выпрыгивает, чтобы не свариться.

Лягушку N3 помещают в сосуд с водой, который ставят на медленный огонь. Лягушка лениво плавает, ни о чем не подозревая. Вода постепенно нагревается, способность реагировать на изменения окружающей среды у лягушки снижается, а когда она наконец понимает, что вот-вот сварится, у нее уже не хватает сил, чтобы выпрыгнуть.

Дело, которым вы занимаетесь, вполне может оказаться лягушкой N3. Бизнес разворачивается, вы не чувствуете какой-то особой тревоги, но когда дело вступает в полосу неудач, вы уже не в состоянии быстро реагировать, ибо потеряли способность к обучению. Предприятия чаще всего лопаются не потому, что внезапно потерпели неудачу, а потому, что накопилось некоторое количество внешне незначительных и даже не связанных между собой обстоятельств.

Слишком много гармонии в организации — вещь опасная. Эффективные руководители поощряют расхождения во взглядах своих менеджеров. Они окружают себя людьми, которые достаточно подготовлены, чтобы знать истинное положение дел на фирме, и достаточно независимы в своих суждениях. Фирмы выживают и не становятся ослепленными от собственных успехов только потому, что люди, их возглавляющие, остаются живыми, энергичными, не знающими отдыха и всегда неудовлетворенными. Они не верят в существование благополучного статус-кво и готовы к изменениям.

Стадия старения характеризуется торжеством бюрократии, глухотой громоздких структур к новым идеям. Дела идут все хуже. Организация должна бороться за выживание.

Эта стадия характерна для основной массы крупных белорусских производящих предприятий. Старый аппарат управления не в состоянии понять, что происходит. Расходуются гигантские усилия и деньги на закупку сырья, выбиваются кредиты на зарплату — и все это для того, чтобы произвести продукцию, которая никому не нужна из-за плохого качества и дороговизны. Обучение управленцев новым методам хозяйствования не помогает по двум причинам:

— пока некому учить;

— ученики слишком отягощены опытом социалистического хозяйствования и управления в прошлом.

Проблему можно решить только за счет новых людей, которые понимают, что сейчас умение продавать и знание рынка должны предшествовать умению производить.

Возрождение характеризуется использованием новой команды управленцев, взгляды которых позволяют осуществлять программы внутренней перестройки.

Император Сун в свое время говорил: "Одно изображение стоит тысячи слов". Все описанное выше можно увидеть в любой организации, в любой фирме. Автор будет рад, если эта статья поможет руководителю предприятия разобраться, что же происходит в его хозяйстве.

**Игорь БАРЧЕНКО, директор НПП "Институт менеджмента".**

# Как Таисия Николаевна стала водоплавающей букашкой

**В редакцию пришло письмо. Отчаявшаяся, потерявшая надежду на помощь женщина, просила "всем рассказать, какой ничтожной букашкой порой чувствуешь себя в чиновничьем кабинете". В поисках поддержки и помощи четыре года она открывала двери разных кабинетов, и все равно осталась наедине со своей бедой.**

А история эта началась в марте 1979 года.

...Несколькими годами раньше Таисия Николаевна Ревтович, а именно так зовут автора письма, приехала в Минск из Дзержинского района. Устроилась на работу в жилищно-строительный кооператив и встала на очередь на квартиру. Когда подошло время вносить деньги на строительство кооперативной квартиры, молодой женщине предложили вселиться в однокомнатную, на первом этаже, в старом доме по ул.Бирюзова, 41. Таисия Николаевна согласилась.

Когда начали таять снега, растаяла в одночасье и радость Таисии Николаевны. Потолок жилой комнаты стал затекать. Вода летела с балкона второго этажа по всей ширине стены и стекала ручьями на пол. Насилу Таисия Николаевна справилась со "стихией". Но почти та же картина стала повторяться после каждого дождя.

Оказывается, когда дом еще строился, бракоделы вставили кривую балконную плиту. Таисия Николаевна не знала, что на протяжении полугода могла отказаться от ордера и выселиться из бракованной квартиры. Этого никто не подсказал ей. Так и жила, плакала, обращалась в ЖЭС, но ничего не менялось. В 1991 году не выдержала, пошла искать помощь в районный исполком.

Во Фрунзенском райисполкоме женщину выслушали, помогли с ремонтом и очень вежливо заметили, что квартира как квартира: живи и радуйся. А ручейки по-прежнему "весело журчали" на полу и стене после очередного дождя. Как быть одинокой женщине? Где искать поддержку? Жить в таких условиях невозможно. Женщины на работе подсказали: пиши в Президиум Верховного Совета республики.

— Писала два раза, — рассказывает Таисия Николаевна. — Письма отсылали в райисполком. Каждый раз приходила комиссия, отчитывала меня как девочку и выносила вердикт: "Квартира — годная к проживанию".

Затем Таисия Николаевна побывала в проектном институте, в ЖРЭО, в приемной главного прокурора Минска. Из этой приемной ее отправили в Министерство коммунального хозяйства.

Пять раз "тревожила" Таисия Николаевна заместителя министра коммунального хозяйства Смирнова, затем — прокурора Минска (все же попала к нему на прием). В итоге — опять комиссия и опять резолюция: квартира — годная к проживанию.

Что делать, когда ты беззащитная букашка? Она пошла в администрацию президента. Но и там ничего хорошего не нашла.

Ей советуют: подавай в суд на проектный институт "Белжилпроект". Но Таисия Николаевна поняла, что ничего не добьется. Будет жить, как жила — в своей сырой квартире, с трещиной на стыке потолка и балконной плиты, лопнувшей панелью длиной аж в метр между окном и потолком, черными стенами, вздувшейся краской на полу и постоянными потопами в дождливую погоду. В идеальных условиях для букашки. Водоплавающей, конечно.

Мария НАРЕЙКО.

## Новая царква ў Іўеўскім раёне

**У вёсцы Бакшты Іўеўскага раёна пачала дзейнічаць новая царква. Не выпадкова названа яна ў гонар святога велікамучаніка Панцеляймона — абаронцы хворых і апекуна ўрачоў.**

Тутэйшыя мясціны былі найбольш забруджаныя ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пацярпелыя людзі сёння не адчуваюць належнай увагі да сябе з боку дзяржавы, а таму спадзяюцца толькі на Божую дапамогу.

Антось ГАРАДЗЕНСКІ, БелаПАН.

